## ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

**Кастрычнік 2013**

**Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"**

## «Справаводства па-беларуску!» прапанавала органам улады зрабіць вулічныя шыльды на дзвюх дзяржаўных мовах




**А таксама ў нумары:**

### Іскавыя заявы:

- аб абароне гонару і годнасці
- аб пакрыцці матэрыяльнай шкоды ад злачынства
- аб прызнанні шлюбу несапраўдным
- аб прызнанні шлюбу несапраўдным
- аб спагнанні сродкаў на ўтрыманне бацькоў

**50**

прыкладаў
**ІСКАВЫХ ЗАЯЎ**




у грамадзянскім працэсе
**ПА-БЕЛАРУСКУ**

# «Справаводства па-беларуску!» прапанавала органам улады зрабіць вулічныя шыльды на дзвюх дзяржаўных мовах

***Грамадзянская ініцыятыва «Справаводства па-беларуску!» сумесна з грамадзянскай ініцыятывай «Гомельскі дэмакратычны форум» і маладзёжным клубам «Цывілізацыя» правялі даследаванне таго, як прадстаўлена беларуская мова на вулічных шыльдах у Гомелі і вобласці. Агляд шыльдаў на гомельскіх вуліцах паказаў, што шыльды па-руску складаюць прыкладна 80-85%. Па-беларуску выкананы ў асноўным тыя шыльды, што былі зроблены яшчэ ў БССР, альбо зроблены ў наш час, але не цэнтралізавана, а па ініцыятыве ўласнікаў дома альбо памяшканняў.***

«Абсалютна не назіраецца адзінага стандарту выканання вулічных шыльдаў, да таго ж яны ў большасці выпадкаў дрэнна заўважныя, што дадае нязручнасці гараджанам пры жаданні адшукаць патрэбны дом ці вуліцу. Між тым, пакуль застаецца фактам тое, што ў Беларусі дзве дзяржаўныя мовы. Падобная сітуацыя і ў Фінляндыі, дзе дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца фінская і шведская. Пры тым, што шведаў у Фінляндыі толькі 4%, пытанне з мовай вуліц па ўсёй краіне вырашана такім чынам, што шыльды вырабляюцца на двух дзяржаўных мовах адначасова»,– адзначыў аўтар ідэі грамадзянскай ініцыятывы «Справаводства па-беларуску!» Ігар Случак.

Актывістамі былі зроблены адпаведныя запыты ў райвыканкамы вобласці, Гомельскі гарвыканкам, Гомельскі аблвыканкам, а таксама адміністрацыю Савецкага раёна Гомеля.

Па выніках разгляду пазначаных зваротаў былі атрыманы адказы рознага характару. Адказы з Акцябрскага, Калінкавіцкага і Жлобінскага райвыканкамаў былі збольшага негатыўнымі, са спасылкамі на фінансавую немэтазгоднасць і заканадаўчую неўрэгуляванасць па дадзенаму пытанню.

З Мазырскага, Лоеўскага, Петрыкаўскага райвыканкамаў рэакцыя была з большага пазітыўнай і было паведамлена, што пытанне прынята да ўвагі. Хойніцкі, Жыткавіцкі, Рагачоўскі райвыканкамы паведамілі, што вулічныя шыльды адразу на двух дзяржаўных мовах будуць вырабляцца пры наяўнасці магчымасцяў і фінансавых сродкаў.

Кармянскі райвыканкам паведаміў, што згодзен з тым, што вулічныя шыльды павінны вырабляцца на двух дзяржаўных мовах. Праца па замене вулічных шыльдаў будзе праведзена пры правядзенні рамонтных работ і фінансавых магчымасцях.

Светлагорскі райвыканкам паведаміў, што прапанова аб выкананні вулічных шыльдаў на двух дзяржаўных мовах заслугоўвае ўвагі. Для абмеркавання механізмаў прававой рэалізацыі прапановы яна была перададзена дэпутату Палаты прадстаўнікоў па Светлагорскай выбарчай акрузе №46, члену пастаяннай камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту Галіне Філіповіч.

Нараўлянскі райвыканкам па пытанню вулічных шыльдаў даў такі адказ: раённы Савет дэпутатаў стварыў па дадзенаму пытанню адпаведны нарматыўна-прававы акт – рашэнне аб найменні вулічна-дарожнай сеткі ў Нароўлі на беларускай і рускай мовах. Дадзенае рашэнне зараз праходзіць неабходныя юрыдычныя працэдуры.

Гомельскі аблвыканкам па пытанню дублявання вулічных указальнікаў па-беларуску і па-руску пазітыўна аднёсся да прапановы. У адказе пазначана, што парадак выкарыстання дзяржаўных моў непасрэдна пры афармленні шыльдаў з назвамі вуліц законам «Аб мовах» не вызначаны.

«Зыходзячы з вышэй пазначанага, можна канстатаваць, што мясцовыя ўлады гомельскага рэгіёну ў цэлым пазітыўна ставяцца да пашырэння выкарыстання беларускай мовы на вулічных шыльдах. Але гэта пытанне не дастаткова нарматыўна ўрэгулявана, што дае падставы тармазіць гэты працэс», - падводзіць рысу Ігар Случак.

Акрамя іншага, у гомельскім мікраараёне «Давыдаўка» па прапанове ініцыятывы «Справаводства па-беларуску!», падтрыманай ініцыятывай «Гомельскі дэмакратычны форум» і маладзёжным клубам «Цывілізацыя», на 30-35% дзвярах пад'ездаў былі размешчаны ўказальнікі з назвай вуліц па-беларуску.

*spring96.org*

9

У суд___________________________
_________________________вобласці
Існец:___________________________
(П.І.І па-бацьку грамадзяніна,
_________________________________
год нараджэння, адрас)

Адказчык: ________________________
(назва арганізацыі ці П.І.І па-бацьку
_________________________________
грамадзяніна, год нараджэння, адрас)

**ІСКАВАЯ ЗАЯВА**
**аб абароне гонару і годнасці**

____________________________________________________________
(указаць, калі, кім і дзе распаўсюджаны звесткі, што зневажаюць
____________________________________________________________
на думку ісца яго гонар і годнасць, у чым зняшчаюцца
____________________________________________________________
гэтыя звесткі і чаму яны не адпавядаюць рэчаіснасці;
____________________________________________________________
пры жаданні прывесці доказы ў падцвярджанне выкладзенага)

У адпаведансці з арт. 153 Грамадзянскага кодэксу і кіруючыся арт. 6 ГПК,

**ПРАШУ:**

1. Абавязаць ___________________________________________
   (назва арганізацыі ці П.І.І па-бацьку грамадзяніна)
   абвергнуць зневажаючыя мае гонар і годнасць звесткі
   ___________________________________________ .
   (указаць характар звестак і парадак іх абвяржэння)
2. У падцверджанне іска выклікаць у суд сведак
   ___________________________________________
   (П.І.І па-бацьку, адрасы)

**Дадатак:**

5. Доказы, што маюцца ў ісца, якія падцвярджаюць распаўсюд звестак, што зневажаюць яго (выразкі ці выпіскі з друкаваных выданняў, выпіскі з пратаколаў сходаў, паседжанняў і г.д. з прывядзеннем у іх выступаў адказчыка; пісьмовыя звароты ў тыя ці іншыя арганізацыі, лісты грамадзян і г.д.).
6. Квітанцыя аб выплаце дзяржпошліны.
7. Копія іскавой заявы для адказчыка.

Дата Подпіс



10

У суд___________________________
_________________________вобласці
Існец:___________________________
(П.І.І па-бацьку грамадзяніна,
_________________________________
год нараджэння ці назва арганізацыі, адрас)

Адказчык(і):______________________
(П.І.І. па-бацьку грамадзяніна,
_________________________________
год нараджэння, адрас)

**ІСКАВАЯ ЗАЯВА**
**аб пакрыцці матэрыяльнай шкоды ад злачынства**

У вытворчасці следчых органаў (суда) знаходзіцца крымінальная справа па абвінавачванню ______________________________________
(П.І.І па-бацьку абвінавачан(ага/ых)
у злачынстве, прадугледжаным часткай ___ артыкула ___ Крымінальнага кодэксу.
Дадзеным злачынствам мне (прадпрыемству ________________________)
(указаць назву)
нанесена матэрыяльная шкода ў памеры _______________________ рублёў,
якая вылічваецца з наступнага:___________________________________
____________________________________________________________
(прывесці адпаведны разлік матэрыяльнай шкоды
____________________________________________________________
і падцвярджаючыя яе доказы)

У адпаведансці з арт. 933 Грамадзянскага кодэксу, арт. 149, 150 КПК і кіруючыся арт. 6 ГПК,

**ПРАШУ:**

1. Прызнаць мяне (прадпрыемства) ______________________________
   (указаць П.І.І па-бацьку ці назву)
   грамадзянскім ісцом.
2. Спагнаць з адказчыка ____________________ на маю (нашу) карысць
   (указаць П.І.І па-бацьку ці назву)
   матэрыяльную шкоду ў памеры ______________________ рублёў.
3. Прыняць захады па забеспячэнні гэтага іску.

**Дадатак:**

8. Пісьмовыя і іншыя доказы аб наяўнасці і памеры мэтырыяльнай шкоды.
9. Копі(я/і) іскавой заявы для адказчыка.

Дата Подпіс



7

У суд___________________________
_________________________вобласці
Існец:___________________________
(П.І.І па-бацьку, год нараджэння, адрас)
Адказчык:________________________
(П.І.І па-бацьку, год нараджэння, адрас)

**ІСКАВАЯ ЗАЯВА**
**аб прызнанні шлюбу несапраўдным**

____________________________________я ўступі(ў/ла) у шлюб з адказчыкам,
(чысло, месяц, год)
які зарэгістраваны ў ________________________________________________
(назва ўстановы рэгістрацыі)
Ад шлюбу дзяцей не маем. Шлюбныя адносіні паміж намі спынены ў ____ годзе.
_______________________________ уступі(ў/ла) са мной ў шлюб, не
(П.І.І па-бацьку адказчыка)
маючы намеру стварыць сям’ю, кіруючыся матывам атрымання рэгістрацыі.
У ____ годзе я зарэгістрава(ў/ла) яго/яе ў сваю _______________ кватэру, што
(колькасць пакояў)
знаходзіцца па адрасе: ______________________________________________ .
Адразу пасля атрымання рэгістрацыі ___________________________________
____________________________________________________________
(паводзіны адказчыка, што сведчаць аб адсутнасці намера
____________________________________________________________ .
стварыць сям’ю)

У адпаведансці з арт. 45, 46, 48, 49 Кодэкса аб шлюбе і сям’і і кіруючыся арт. 6 ГПК,

**ПРАШУ:**

1. Прызнаць мой шлюб з ____________________________________________
   (П.І.І па-бацьку адказчыка)
   несапраўдным, ануляваць актавы запіс №_____________________________
   ад “___”___________ ______ года аб рэгістрацыі шлюбу ў
   ___________________________________________________________.
2. Вызваць у якасці сведак, якія могуць падцвердзіць абставіны, выкладзеныя ў заяве ______________________________________________ .
   (П.І.І па-бацьку сведак, іх месца жыхарства)

**Дадатак:**

1. Арыгінал пасведчання аб заключэнні шлюбу.
2. Квітанцыя аб выплаце дзяржпошліны.
3. Копія іскавой заявы для адказчыка.

Дата Подпіс



7

У суд___________________________
_________________________вобласці
Існец:___________________________
(П.І.І па-бацьку, год нараджэння, адрас)
Адказчык:________________________
(П.І.І па-бацьку, год нараджэння, адрас)

**ІСКАВАЯ ЗАЯВА**
**аб прызнанні шлюбу несапраўдным**

____________________________________я ўступі(ў/ла) у шлюб з адказчыкам,
(чысло, месяц, год)
які зарэгістраваны ў ________________________________________________
(назва ўстановы рэгістрацыі)
Ад шлюбу дзяцей не маем. Шлюбныя адносіні паміж намі спынены ў ____ годзе.
_______________________________ уступі(ў/ла) са мной ў шлюб, не
(П.І.І па-бацьку адказчыка)
маючы намеру стварыць сям’ю, кіруючыся матывам атрымання рэгістрацыі.
У ____ годзе я зарэгістрава(ў/ла) яго/яе ў сваю _______________ кватэру, што
(колькасць пакояў)
знаходзіцца па адрасе: ______________________________________________ .
Адразу пасля атрымання рэгістрацыі ___________________________________
____________________________________________________________
(паводзіны адказчыка, што сведчаць аб адсутнасці намера
____________________________________________________________ .
стварыць сям’ю)

У адпаведансці з арт. 45, 46, 48, 49 Кодэкса аб шлюбе і сям’і і кіруючыся арт. 6 ГПК,

**ПРАШУ:**

1. Прызнаць мой шлюб з ____________________________________________
   (П.І.І па-бацьку адказчыка)
   несапраўдным, ануляваць актавы запіс №_____________________________
   ад “___”___________ ______ года аб рэгістрацыі шлюбу ў
   ___________________________________________________________.
2. Вызваць у якасці сведак, якія могуць падцвердзіць абставіны, выкладзеныя ў заяве ______________________________________________ .
   (П.І.І па-бацьку сведак, іх месца жыхарства)

**Дадатак:**

1. Арыгінал пасведчання аб заключэнні шлюбу.
2. Квітанцыя аб выплаце дзяржпошліны.
3. Копія іскавой заявы для адказчыка.

Дата Подпіс

*“Справаводства па-беларуску!” , “Зробім лепш-2013”*

У суд____________________________
____________________________вобласці
Ісцец:____________________________
(П.І.І па-бацьку, год нараджэння, адрас)
Адказчык:__________________________
(П.І.І па-бацьку, год нараджэння, адрас)

**ІСКАВАЯ ЗАЯВА**
**аб спагнанні сродкаў на ўтрыманне бацькоў**

Мне _________________________ , я не працую, пенсію па ўзросце (інваліднасці)
(указаць узрост)
атрымоўваю ў памеры ____________________________________________ рублёў,
маю матэрыяльную патрэбу, таму што іншых крыніц даходаў не маю.
Мой/мае _______________________________________________________________
(імя сына, дачкі, дзяцей, іх гады нараджэння)
матэрыяльную дапамогу мне добраахвотна не аказва(е/юць).
Адказчык(і) працу(е/юць) _________________________________________________
(пазначыць месца працы
________________________________________________________________________
і заробак адказчыка(ў), склад сям'і,
________________________________________________________________________
колькасць утрыманцаў, калі ісцец мае гэтыя дадзеныя)
і мае/маюць магчымасць аказваць мне матэрыяльную дапамогу.

У адпаведансці з арт. 100, 102 Кодэкса аб шлюбе і сям'і і кіруючыся арт. 6 ГПК,

**ПРАШУ:**

Штомесяц спаганяць з адказчыка(ў) ________________________________________
(П.І.І па-бацьку)
Сродкі на маё ўтрыманне ў памеры __________________________________ рублёў
(мінімальных заробкаў), штомесяц пачынаючы з ___________________________ ,
(число, месяц, год)
да змены матэрыяльнага і сямейнага стану бакоў.

**Дадатак:**

1. Даведка аб заробку адказчыка(ў).
2. Даведка аб складзе сям'і адказчыка(ў).
3. Даведка аб пенсіі ісца.
4. Копі(я/і) іскавой заявы (па колькасці адказчыкаў).

Дата Подпіс

*"Справаводства па-беларуску!" , "Зробім лепш-2013"*

M&S MEDIA
Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі" *"Справаводства па-Беларуску!"*
Уладальнікі выдання ***M&S Media***
Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*
246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя "Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску"
Надрукавана на Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.
Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275
*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva
Наш ***e-mail:*** **gnavinki@gmail.com**
M&S MEDIA